*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 32(417)** **11 ЖНІЎНЯ 1999 г.**

## Зварот

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны да беларускіх рабочых

**Шаноўнае спадарства!**
**Дарагія людзі працы!**

Мы звяртаемся да ўсіх вас разам і да кожнага персанальна: да цябе - слесар і да цябе - электрык; да вас - рамонтнікі, наладчыкі, зборшчыкі; і да вас - будаўнікі, чыгуначнікі, шахцёры; мы звяртаемся да тых, хто сёння стаіць ля станка і штурвала ці сядзіць перад экранам кампутара, хто сваёй працай ставарае дабрабыт народа, краіны і свой асабісты, але з кожным працоўным днём не багацее, а наадварот, становіцца ўсё больш і больш бяднейшы. Так будзе да таго часу, пакуль вы не ўспомніце, што вы - беларусы і што жывяце не дзе-небудзь, а тут - у Беларусі.

Паглядзіце на літоўцаў, эстонцаў, палякаў, чэхаў ды іншыя народы, якія 10 гадоў таму былі аднолькавыя з беларусамі жабракі. Але цяпер яны з кожным днём багацеюць, а беларусы - бяднеюць. Чаму? А таму што яны жывуць і працуюць на сваёй роднай мове, а значыць - для сябе і сваіх народаў.

Беларускую мову ўлада выгнала са школаў, фабрык і заводаў для таго, каб вашы дзеці і вы не адчувалі сабе гаспадарамі сваёй зямлі, а вынікі вашай працы каб належалі не вам, а суседу, на мове якога вам цяпер вызначалі жыць і працаваць.

Дарагія сябры!

Вяртанне да роднай мовы - гэта шлях да незалежнасці, а значыць - шлях да вашага дабрабыту. Жывіце, працуйце, размаўляйце, вучыце сваіх дзяцей па-беларуску, патрабуйце гэтага ад свайго начальства і ад уладаў Беларусі!

29 ліпеня 1999 года

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны***

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Алена Дэц, г. Менск | - 100.000 руб. |
| 2. Рада Маск. р-на г. Менска | - 1.500.000 руб. |
| 3. Навумчык Юрка, ЗША | - 20 $ |
| 4. Маскалёў В.Г., г. Менск | - 1.000.000 руб. |
| 5. Хусаінаў І.В., г. Менск | - 500.000 руб. |
| 6. Тычына М.А., г. Слуцк | - 200.000 руб. |
| 7. Даўгіловіч Яўген, г. Баранавічы | - 3.000.000 руб. |
| 8. Лаўрыновіч Паўлюк, г. Глыбокае | - 300.000 руб. |
| 9. ЗАСТ "Таск", г. Менск | - 5.000.000 руб. |
| 10. Таіса Мішчанка, г. Масква | - 300 рас. руб. |
| 1. МВП, г. Менск | - 400.000 руб. |
| 2. Палсцюк Валер, г. Менск | - 300.000 руб. |
| 3. Сафро Марыя Залмаўна, г. Пінск | - 500.000 руб. |
| 4. Прыхільнік ТБМ з Гомельшчыны | - 200.000 руб. |
| 5. Васіль Кажан (ЗША) | - 60 $ |
| 6. Фонд імя Крычэўскага (ЗША) | - 100 $ |
| 7. Курыс Марыя Пятроўна, в. Магілейцы | - 300.000 руб. |
| 8. Цэплуховіч Ніна Пятроўна, в. Магілейцы | - 200.000руб. |
| 9. Курыс Алесь, в. Магілейцы | - 500.000 руб. |
| 10. Талерчык Тамара Васільеўна, г. Горадня | - 500.000 руб. |
| 11. ДП "Граніт", г.п. Касцюковічы | - 10.000.000 руб. |
| 12. Лаўрыновіч Паўлюк, г. Глыбокае | - 300.000 руб. |
| 1. Новік Міхаіл, г. Менск | - 50.000 руб. |
| 2. Барсук Тамара, г. Менск | - 150.000 руб. |
| 3. Федасеенка Таццяна, г. Менск | - 200.000 руб. |
| 4. Лушчыцкая Вольга, г. Менск | - 50.000 руб. |
| 5. Русак Л.В., г. Менск | - 50.000 руб. |
| 6. Хлюступава Е.М., г. Менск | - 200.000 руб. |
| 7. Станкевіч А.М., г. Менск | - 500.000 руб. |
| 8. Авечка Лідзія, г. Менск | - 100.000 руб. |

**Шаноўныя чытачы "Нашага слова", настаўнікі гісторыі, вучні і студэнты! Паведамляем вам, што з пачатку верасня мы пачнём друкаваць кнігу Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род". Не прапусціце.**

## ТБМ, у пікеты !

Па рашэнні апошняга Сакратарыяту ТБМ у Менгарвыканкам пададзены заяўкі на правядзенне ў Менску пікета і мітынга ТБМ. Пікет плануецца на 1 верасня ў Міхайлаўскім скверы з 17-19, а Першы Агульнарэспубліканскі мітынг у абарону мовы 8 верасня на плошчы Якуба Коласа з 17-19.

Звычайна Сакратарыят сам праводзіць 1 - 2 пікеты ў Менску, і гэта на ўсю Беларусь! А што нашы суполкі ў іншых гарадах, мястэчках? Зрухі будуць толькі тады, калі такіх пікетаў будзе дзесяткі, сотні па ўсёй краіне, каб як мага больш суайчыннікаў пабачылі нашы патрабаванні.

Сакратарыят Таварыства заклікае кожную асобную суполку ТБМ – абавязкова, а таксама партыі, рухі, грамадскія аб'яднанні і проста грамадзян, усіх, каму не абыкавы лёс роднай мовы, падаць заяўкі па месцы жыхарства, працы ў мясцовыя выканкамы на правядзенне пікетаў у людных месцах на 1-е і 8-е верасня, каб акцыя ў Менску сталася сапраўды агульнабеларускай. Для гэтага патрэбна правесці паседжане і выпіску з пратаколу паседжання разам з заяўкай на правядзенне пікету падаць у мясцовыя выканаўчыя органы ўлады, вось узоры:

Выпіска з пратаколу
паседжання Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны № 12
ад 29 ліпеня 1999 года.

Сакратарыят ТБМ пастанавіў: прасіць дазволу Старшыні Менскага гарвыканкама 8 верасня 1999 года правесці пікет на плошчы Я. Коласа ў г. Менску з мэтай агітацыі за беларускамоўную адукацыю, прапаганду стварэння нацыянальнага універсітэта і супраць пераіменавання праспекта Францішка Скарыны.

Час правядзення пікетавання з 17.00 да 19.00 колькасць ўдзельнікаў да 50 чалавек.

***Старшыня ТБМ А.А.Трусаў.***

### Заяўка

***Старшыні Менскага гарвыканкама***
***У.В.Ярмошыну***

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны просіць дазволу правесці пікетаванне 8-га верасня 1999 года з мэтай агітацыі за беларускамоўную адукацыю, прапаганды стварэння нацыянальнага універсітэта і супраць пераіменавання праспекта Францішка Скарыны.

Час правядзення пікетавання з 17.00 да 19.00.

Месца правядзення пікетавання – плошча Якуба Коласа. Колькасць удзельнікаў да – 50 чалавек.

Адказны за правядзенне пікета : Трусаў Алег Анатольевіч старшыня ТБМ, дацэнт Беларускага універсітэта культуры.

Хатні адрас: тэлефон:

Старшыня ТБМ .... А.А.Трусаў

Заяўка павінна быць пададзена не пазней чым за 15 дзён да пікета, адказ улады павінны даць не пазней за 5 дзён да пікета. Так, што калі падаваць заяўку на пікет на 1-е верасня не пазней за 16 жніўня, а на 8-е верасня не пазней за 23 жніўня. Плакаты можна пісаць напрыклад маркерам ці чым іншым на картоне ці ватмане.

Змест плакатаў можа быць напрыклад такім: "Не русіфікацыі", "Беларусы – дзе наша мова?", "Не знішчэнню беларускамоўнай адукацыі", "Не візуальнай русіфікацыі", " Беларусы абаронім сваю Дзяржаўнасць"; і іншыя, а таксама плакаты па мясцовых праблемах, напрыклад – "не закрыццю беларускага класа у СШ № ....." і г.д.

Давайце замест безсэнсоўных размоў на кухні і скаргаў на свой гаротны лёс рабіць канкрэтную, дзейсную справу, калі хочам быць вартымі сваіх слаўных продкаў. Інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне ў Менску 8(0172)284-85-11.

***Томаш Урублеўскі.***

**Шаноўныя дэлегаты 6-га зьезду БНФ!**

Вітаю вас на гэты раз здалёк ад роднай Беларусі.

Зычу вам плённае працы і пэўных посьпехаў у вырашэньні ўсіх пільных для Фронту спраў.

Адчуваю, што справы тыя сапраўды пільныя, як для Беларусі, так і для Фронту таксама.

Унутрыпалітычная сітуацыя краіны патрабуе адэкватных і адмысловых дзеяньняў апазіцыі супраць дыктатарскага рэжыму. Але дамагчыся зьмены таго рэжыму немагчыма без аб'яднаных высілкаў усяе дэмакратыі, без ідэйна-арганізацыйнага адзінства Фронту.

Разброд ці раскол быў бы самагубствам для Фронту і злачынствам перад Радзімай. Спадзяюся, аднак, што розум і адвага і на гэты раз не пакіне шаноўных дэлегатаў з'езду, з якога яны выйдуць яшчэ болей аб'яднаныя, згуртаваныя, гатовыя да новых выпрабаваньняў і доўгачаканых перамог.

Са шчырасьцю, Васіль Быкаў.

Жыве Беларусь!

## Не разбіць, не спыніць, не стрымаць...

Важнасць наяўнасці незалежнага друку на Беларусі нарэшце, здаецца, становіцца зразумелай усім.

У Бабруйску пачала выходзіць пядаўна зарэгістраваная "Крынічка бабруйская". Наклад 3 000 асобнікаў. Фармат А-3. Аб'ём 4 паласы. Рэдактар Вячаслаў Слізуноў.

Нарэшце зарэгістраваны часопіс "Лідскі летапісец". Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1342.

Пачалі выходзіць мінімальным накладам у 299 асобнікаў Пухавіцкі "Адвечны шлях" і "Маладая Мар'іна Горка".





# Мемарыяльная дошка скульптару





У Менску, на вуліцы Сурганава, адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай памяці вядомага скульптара народнага мастака Беларусі, прафесара Анатоля Анікейчыка.

На здымках:

1. У час адкрыцця мемарыяльнай дошкі А.А.Анікейчыку.
2. Мемарыяльны знак, прысвечаны памяці мастака.

Фота Яўгена Казюлі , БЕЛТА.—0—НГ/ЯЧ

# Беларускія праблемы Віленскага Краю

## 1. Агрэсія.

Пад час нядаўніх сумесных расейска-беларускіх камандна-штабных вучэнняў "Захад-99" беларускія войскі "занялі" Летуву.

Апроч гэтага А.Лукашэнка імкнецца вярнуць на тэрыторыю Беларусі ядзернаю зброю, вывезенаю ў свой час у Расею.

Узьнікае пытаньне: "Ці не па-гэтаму Літва імкнецца як мага хутчэй уступіць у НАТА?" "І на чыім баку быць віленскім беларусам?"

## 2.Беларускія крахаборы ўводзяць новыя паборы.

Хаця А. Лукашэнка ад мытных пошлін у свой бюджэт атрымлівае 1/3 (трацiну) усіх грашовых сродкаў, але ягоны апетыт на валюту павялічваецца шляхам увядзеньня на мяжы ўсё новых пабораў, каб захаваць мадэль таталітарнай эканомікі ў Беларусі.

Так, з 1 ліпеня 1999 г. летувіскім кіроўцам аўтамабіляў даводзіцца абавязкова страхавацца інакш будзеш плаціць штраф 200 даляраў ( праўда, штраф будзе ўзымацца чутачку пазьней, г.зн. з 10 кастрычніка). Страхоўка легкавушкі на мінімальны тэрмін (15 дзён) каштуе 4,8 еўра, прычэпа да легкавога аўта – 2,6 еўра, матацыкла – 2,2 еўра і г.д. Даражэй за усё будзе страхоўка аўтобуса – 18, 1 еўра. Вось як цяпер з'ездзіць у Беларусь на экскурсію ці з канцэртам мастацкай самадзейнасці калі яшчэ ўлічыць, што ўязная аднаразовая віза каштуе – 20 даляраў, ( а калі тэрмінова, то яшчэ плюс 15 дал.). Апроч гэтага на мяжы яшчэ бяруць за экалогію (за легкавы аўтамабіль —5 дал., а за аўтобус 20 даляраў). І гэта яшчэ ня ўсё. Калі праязджаеш на тэрыторыі заказніка і там пошліна. Летувіскім беларусам пры гэтым ніхто скідак не робіць.

*Юры Гіль. Дэпутат Віленскага раёна.*

# Традыцыя - вялікая сіла



У нядзелю 8 жніўня ў Лідскім раёне паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы ўжо ў пяты раз адбыўся фэст па ўшанаванню памяці паўстанцаў 1863 года, чыя магіла тут знаходзіцца. Сабраліся людзі з Ліды, Белагруды, Мохавіч, Малога Ольжава, Далекіх, Раклёўцаў - усяго больш 150 чалавек. Святую імшу адправіў ксёндз Рышард з Белагруды. Імша ішла на беларускай і польскай мовах. Цікавае спалучэнне моваў. Ксёндз- этнічны паляк вёў службу па-польску, пераходзячы сяды-тады на беларуска-расейскую трасянку. Клерык з Гарадзенскай семінарыі сваю частку вёў па-беларуску. Дзіцячы касцельны хор з Белагруды, вучні беларускай школы, спявалі па-беларуску. Вернікі, усе тутэйшыя мо да дзесятага калена, сваю частку спявалі па-польску.

Тэмай казання была тэма Радзімы і роля беларускай мовы і беларускай культуры ў выхаванні патрыятызму. Маліліся за ўсіх палеглых за Беларусь.

Фэст стаў за пяць год мясцовай традыцыяй і з кожным годам сюды сцякаецца ўсё больш людзей для таго, каб памаліцца за Радзіму і яе абаронцаў.

*Станіслаў Суднік.*

# Беларуская ліра ліцьвіна







Выстава "Мелодыі Бацькаўшчыны", што адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, падоўжыла святкаванне 180-годдзя з дня нараджэння кампазітара Станіслава Манюшкі.

У экспазіцыі – прадметы быту эпохі кампазітара, гістарычныя дакументы, якія расказваюць пра яго творчасць, работы беларускіх мастакоў, прысвечаныя славутаму земляку. І, вядома, у выставачнай зале гучалі мелодыі С.Манюшкі.

У час работы выстаўкі тут адбудуцца канцэрты Мінскага абласнога камернага хору "Санорус".

На здымках работы з выставы :

1.Е.Андрыёлі "С.Манюшка" /прысвячаецца трохсотаму спектаклю оперы "Галька" на сцэне Вялікага тэатра ў Варшаве.

3. У.Стальмашонак "Ліра літвіна".

3.А.Пшанко. "Натхненне".

4.Прадметы быту эпохі С.Манюшкі.

Фота Яўгена Казюлі. БЕЛТА

# Каб беларуская нацыя не зікла з мапы свету...

Зайшоўшы ў сядзібу ТБМ, я выпадкова пазнаёміўся з вельмі цікавым чалавекам, які завітаў у Таварыства. І сп. Алег Рудакоў пагадзіўся распавесці прпа сябе, а таксама пра дзейнасць Іркуцкага Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, старшынёю якога ён з'яўляецца.

***—Скажыце, калі ласка, колькі слоў пра сябе.***

—Нарадзіўся ў вёсцы Бяздзедавічы, што на Полаччыне, утворанай у 30-я гады з сагнаных у калгас гаспадароў хутароў. Побач знаходзяцца другія Бяздзедавічы, у якіх захаваўся прыгожы маёнтак брата Рымскага-Корсакава, зараз там бальніца. У гэтым маёнтку Рымскі-Корсакаў напісаў некаторыя свае творы.

Пасля вайны, калі выдаваліся новыя дакументы, расейскі маёр-камендант замест прозвішча Рудак напісаў Рудакоў.

Як патрапілі ў Сібір?

У 1985 годзе скончыў сярэднюю школу і паступіў у Цюменскае вышэйшае каманднае вучылішча, якое скончыў у 1989 годзе. Планавалі накіраваць у Афганістан, нават вучылі адной з афганскіх моў, але ў сувязі з вывадам адтуль савецкіх войск размеркавалі ў Іркуцк у Віцебскую ракетную дывізію, якая, дарэчы, у вайну ўдзельнічала ў баях пад Полацкам і Віцебскам. Праслужыўшы пяць гадоў, звольніўся па стану здароўя з войска і паступіў у тэхнічны універсітэт на эканамічны факультэт, а таксама ў Іркуцкі дзяржаўны універсітэт на гістарычны факультэт завочна, зараз скончыў ужо 5-ты курс.

Спачатку працаваў у сваёй прыватнай фірме, але зараз пайшоў працаваць настаўнікам гісторыі ў СШ № 31 г.Іркуцка. У грашах, канешне, страціў, але ж лічу гісторыю больш важнаю.

Зараз рыхтую дыпломную працу "Беларусы ва Ўсходняй Сібіры".

***– Калі і як утварылася ваша Таварыства?***

-- Будучы ў 1995 г. у Менску, я зайшоў у ЛіМ і ад Вільтоўскага Васіля Антонавіча атрымаў прапанову прыняць удзел у 4-м з'ездзе ТБМ. На з'ездзе давялося выступаць пасля З. Пазьняка, якому па рэгламенце дазволілі выступаць толькі 5 хвілін. Калі мне ў час выступлення нагадалі пра рэгламент, я сказаў – у вас жа беларусы з Іркуцка не кожны дзень выступаюць. Зала ўспрыняла добра, загучалі апладысменты, таму я адзіны выступаў больш за рэгламент – 10 хвілін.

У перапынку шмат падыходзіла людзей, было многа пытанняў пра Сібір.

Прыехаўшы ў Іркуцк, я на наступны ж дзень даў аб'яву, у якой запрасіў адгукнуцца беларусаў і сабрацца. Людзі прыйшлі, і быў утвораны аргкамітэт па правядзенні 1-га з'езда беларусаў Іркуцкай вобласці, які адбыўся 31 траўня 1996 года. У ім удзельнічала 25 чалавек, была зацверджана назва Таварыства, эмблема, праграма дзейнняў, асноўныя палажэнні Статута. Станаўленне адбывалася складана з 1996 г. прайшлі 3 з'езды. На сённяшні момант мы трывала сталі на ногі. Нас заўважыла абласная адміністрацыя і грамадскія аб'яднанні. Мы адзіная з 13-ці культурніцкіх арганізацый, якая ўваходзіць у Савет некамерцыйных грамадскіх арганізацый і куды трапіць не вельмі проста.

***-- Раскажыце пра беларускае жыццё ў вас, колькі сяброў у вашым таварыстве?***

-- На сённяшні дзень афіцыйна ў Таварыстве 75 чалавек, а прыхільнікаў мусіць да 300, якія прымаюць удзел у нашых мерапрыемствах. На апошнім Купаллі сабралося больш за 200 чалавек.

Выдаем бюлетэнь – газету "Маланка" на беларускай і расейскай мовах накладам 200 ас., у ёй і распавядаецца пра беларускае жыццё, пра кірункі нашай дзейнасці.

Робім беларускія дыскатэкі на нашых святах, выкарыстоўваем запісы "Крамы", "Палаца", "Алена", бывае выкарыстоўваем англамоўныя рэчы, але ніколі не ставім расейскамоўную музыку.

Мясцовы панк-рок-гурт "Зінгай" праз нас пазнаёміўся з запісамі беларускіх рок-гуртоў і запрашаў іх да сябе.

Выяджаем таксама ў вёскі ў якіх жывуць перасяленцы з Беларусі. Такіх некалькі – Тургенеўка, Тарнопаль, Каменка, Шарагі, Анучынск, Марыінск і шмат іншых. У Тургенеўцы нават ёсць свой уласны музей утварэння вёскі, там і калаўроты, і ручнікі, і кросны, і кашулі вышываныя. У вёсцы з моманту засялення жыве ўжо 6-е пакаленне, але калі бываеш там, то як быццам прыехаў у Беларусь, добра чувауць беларускі акцэнт. У іх самы лепшы ў раёне калгас і на ўсю акругу самая лепшая самагонка, якую да іх прыязджаюць купляць з навакольных населеных пунктаў, дзе жывуць у асноўным бураты.

Пасля зацвярджэння назова нашага Таварыства я выступіў на мясцовым тэлебачанні. Да гэтага лічылася, што Ян Чэрскі -- гэта паляк. У мясцовай газеце з'явілася маё вялікае інтэрвію пад загалоўкам – "Ян Чэрскі беларус ці паляк".



**Алег Рудакоў**

Таксама шмат хто з мясцовых палякаў мае беларускае паходжанне. Напрыклад намеснік старшыні польскага культурнага цэнтра Баляслаў Сяргеевіч Шастаковіч у размове са мною сам пацвердзіў, што ў яго беларускія карані.

У Іркуцку да рэвалюцыі палякамі, беларусамі і жмудзінамі – як яны тады зваліся пабудаваны касцёл. У Сібіры каталіцызм атаясамляецца з пальшчызнай таму што – каталіцкую касцёл лічаць польскім. Айцы Дарыюш і Ігнацы кажуць, што шмат нашых беларусаў з'яўляюцца каталікамі. Айцец Дарыюш распавёў, што наш касцёл носіць назву святога, які прымаў удзел у паўстанні разам з Кастусём Каліноўскім на тэрыторыі Беларусі і магчыма з'яўляецца яго блізкім суродзічам. Так, што мясцовы касцёл хутчэй за ўсё носіць імя беларуса, хоць мясцовыя палякі пакуль гэтага яшчэ не ведаюць.

***– Акрамя вас, хто яшчэ і як працуе ў вашым Таварыстве?***

-- Шмат людзей ў тым ліку і актыўных адышлі ад спраў, прыходзяць новыя, вяртаюцца старыя.

Найбольш актыўныя сябры нашага Таварыства гэта Анжаліка Пацэвіч, Алесь Галкін, Аліна Грыбаноўская, Юля Пермінава, Віктар Красноў, Надзея Ванчук, кіраўнік фальклорнага гурта "Ленушка" – Таццяна Сіпакова, кіраўнік ансамбля беларускай песні Марына Галкіна і шмат іншых, якім я вельмі ўдзячны за іх самаахвярную працу.

***– Якія планы ў вашага Таварыства?***

-- Будзем развіваць нашы набыткі, гуртаваць моладзь у маладзёвы клуб "Крывічы" – каб вывучалі нашу гісторыю, мову.

Некаторыя сябры прыйшлі да нас не ведаючы беларускай мовы, зараз размаўляюць на добрай беларускай мове. Будзем праводзіць беларускія конкурсы, віктарыны. Таксама хочам стварыць нядзельную школу па вывучэнні беларускай мовы і гісторыі., культурных традыцый. Развіваць дзейнасць бібліятэкі беларускай літаратуры г. Іркуцка.

Мы вельмі зацікаўлены ў шчыльных сувязях з рознымі арганізацыямі, у тым ліку і за межамі Беларусі – якія ставяць за мэту адраджэнне Беларусі.

Дэлегаты нашага Таварыства ўдзельнічалі ў 1-м з'ездзе беларусаў Расеі, я быў абраны 2-м намеснікам старшыні міжрэгіянальнага аб'яднання беларусаў Расеі.

***-- Што б вы хацелі пажадаць Бацькаўшчыне?***

Самая галоўнае гэта каб беларуская нацыя і Беларусь не зніклі з мапы свету. Каб мы беларусы, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны і вывучаюць беларускую мову маглі, прыехаўшы на Радзіму, чуць родную мову і размаўляць на ёй.

P.S. ТБМ безумоўна будзе трымаць сувязь з Іркуцкім Таварыствам Беларускай культуры, па магчымасці дапамагаць. Для тых жа, хто захоча наладзіць сувязі сам ці дапамагчы нашым землякам (напрыклад даслаць кнігі, аўдыёвідыё касеты і іншае), падаём каардынаты для кантакту: 664078 Расія, Іркуцк, м-н Зялёны д.15 – к.38; тэл.х. (3952) 37-03-95 тэл.факс: (3952) 34-49-43 Рудакоў Алег Васільевіч. E-mail: root@rls.isu.runnet. ru (для Рудакова)

***Гутарыў Алесь Гурыновіч.***

## Дынаміка дыскрымінацыі беларускай мовы ў праграмах Беларускага радыё ў 1994 – 1998 гадах

Не трэба доўга гаварыць аб тым, якое значэнне мае моўны склад радыёпраграмаў на нацыянальную свядомасць, на адносіны людзей, якія гэтыя праграмы слухаюць, да мовы, якая гучыць па радыё.

"Песня – гэта найбольш кароткі шлях да сэрца чалавека", — сказаў у адным са сваіх газетных інтэрвію паважаны Ніл Сымонавіч Гілевіч.

У гэтым напрамку і праведзена кароткае самадзейнае даследванне музычных праграм Беларускага радыё. На якіх жа мовах гучаць вакальныя творы (песні, арыі з опер і аперэт, рамансы) на 1-й і 2-й праграмах Беларускага радыё.

Першае праслухоўванне зроблена ў кастрычніку 1994 года. Праслухана 1361 песня па 1-й і 1210 па 2-й праграмах. Яго вынікі:

| | | |
|---|---|---|
| 1-я праграма: | Беларускамоўныя песні | – 31 % |
| | Расейскамоўныя песні | 52 % |
| | Песні на іншых мовах | 17 % |
| 2-я праграма: | Беларускамоўныя песні | 13 % |
| | Расейскамоўныя песні | – 39 % |
| | Песні на іншых мовах | 48 % |

Вынікі праслухоўвання з 1 па 10 сакавіка 1996 года. Праслухана 356 песень па 1-й і 370 па 2-й праграмах:

| | | |
|---|---|---|
| 1–я праграма: | Беларускамоўныя песні | – 28 % |
| | Рускамоўныя песні | – 54 % |
| | Песні на іншых мовах | – 18 % |
| 2-я праграма: | Беларускамоўныя песні | – 8 % |
| | Рускамоўныя песні | – 49 % |
| | Песні на іншых мовах | – 43 % |

Песні Беларускага радыё: час 8.00 – 17.00.

Вынікі праслухоўвання з 12 чэрвеня па 12 ліпеня 1998 года. Праслухана 394 песні:

| | | |
|---|---|---|
| 1–я праграма: | Беларускамоўныя песні | – 22,8 % |
| | Рускамоўныя песні | – 67,0 % |
| | Песні на іншых мовах | – 10,2 % |

Вынікі праслухоўвання з 12 траўня па 11 чэрвеня 1998 года. Праслухана 737 песень:

| | | |
|---|---|---|
| 2-я праграма: | Беларускамоўныя песні | 11,5 % |
| | Рускамоўныя песні | 40,0 % |
| | Песні на іншых мовах | 48,5 % |

Песні Беларускага радыё: час 8.00 – 17.00.

Гэтыя лічбы уражваюць. Як можа быць такое, што ў суверэннай дзяржаве, на дзяржаўным радыё, якое ўтрымліваецца на сродкі грамадзян-падаткаплацельшчыкаў большасць песень не на дзяржаўнай мове, а на мове суседняй дзяржавы, на мове нацыянальнай меншасці.

З ніжэй прыведзеных лічбаў бачна, што за прайшоўшы час на першай праграме Беларускага радыё колькасць беларускамоўных песень зменшылася на 8% а колькасць расійскамоўных павялічылася на 13 %.

На 2-й праграме на 1,5 % зменшылася колькасць беларускамоўных, на 1 працэнт вырасла колькасць расейскамоўных і на 0,5 працэнта колькасць іншамоўных песень.

Практычна не чуваць песень на ўкраінскай, польскай, літоўскай мовах.

Дынаміка відавочная і каментараў не патрабуе.

Пры праслухоўванні выяўляецца і наступная тэндэнцыя, ідзе ў эфіры добрая беларуская праграма – напрыклад аб творчасці Ул.Караткевіча. А ў якасці музычнай застаўкі даецца песня на расейскай мове. Па меркаваннях псіхолагаў, такі прыём дазваляе практычна звесці на нішто ў свядомасці слухача той станоўчы эфект, тую эмацыянальную ўзрушанасць, захопленасць расповядам, бо ўздзеянне песні на эмацыянальны стан чалавека значна большае, за ўздзеянне проста добра прачытанага тэксту.

І яшчэ адно назіранне. У эфіры раз- пораз знікае на 5-6 гадзін гук на 1-й і 2-ій беларускіх праграмах. У гэты ж час абедзьве расійскія радыёпраграмы чуюцца бездакорна.

І гэтыя дзеянні даюць свае відавочныя вынікі. Ужо сярод адукаванай тэхнічнай інтэлігенцыі можна пачуць разважанні аб тым, што беларускіх песень наогул няма, а калі і ёсць тры дзесяткі песень, дык і тыя не маюць мастацкай вартасці ў параўнанні з расейскімі.

Усё вышэйзгаданае міжволі прыводзіць на думкі, што фармаванне беларускага песеннага эфіру робіцца не ў калектыве Белтэлерадыё і наогул не ў Менску, а недзе ў Маскве на Лубянцы або на Старой Плошчы.

Менавіта там і да гэтага часу фармуецца нялюдская праграма пераробкі, кадавання ды замбавання тых нашых суайчыннікаў, хто яшчэ застаўся беларусам, у расейскамоўную люмпенскую масу, якая ў любы момант прагаласуе за любую "інтэграцыю", якую ёй прапануюць за тры праснакі і кухаль піва ўсякія прыблуды і нашыя дамарослыя "звышінтэрнацыяналісты".

Я разумею, што праведзеная работа дазваляе раскрыць толькі адзін са шматлікіх працэсаў добра распрацаванай і шырокавыкарыстоўваемай тэхналогіі татальнай дэбеларусізацыі.

З гэтага вынікае наступнае:

Час ужо ў поўны голас на ўсіх узроўнях уздымаць пытанне аб пераводзе першай радыёпраграмы і праграмы тэлебачання цалкам на беларускую мову. Так, як напрыклад расійскі "Маяк" усе 100% эфірнага часу вядзе трансляцыю толькі па расійску. Гэта будзе нармальным крокам для нармальнай дзяржавы.

***Вадзім Болбас.***
***Старшыня Светлагорскай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны.***



№ 32(417) 11 ЖНІЎНЯ 1999 г. наша слова

Зянон Пазьняк

# ВЫЗВОЛЬНЫ РУХ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І СВАБОДУ

## (Даклад на зьезд БНФ "Адраджэньне", 31 ліпеня 1999 г.,Менск)

*(Зак-не. Пачатак на ст.5.)*

### ДЗЕЙНАСЬЦЬ ФРОНТУ

Мы не павінны згортваць пратэстацыйныя акцыі, асабліва тактыку "Нябачны Фронт", але яны павінны быць асэнсаваныя. Не забывайма, што прэзыдэнта больш няма. Існуе ўзурпатар.

Два лёзунгі павінны стаць галоўнымі: "Лукашэнка зыходзь!" і "Ніякіх саюзаў з Расеяй!". Трэба аднавіць збор подпісаў за адхіленьне ўзурпатара ад улады. Гэта аргумент у палітычным змаганьні.

На Зьезьдзе прапаную прыняць зварот да служачых выканаўчых структураў Беларусі, войска і міліцыі з заклікам не служыць узурпатару, а падтрымліваць Беларускі Вызвольны Рух.

Неабходна таксама прыняць зварот да краінаў НАТО, і найперш – да Злучаных Штатаў Амэрыкі і Вялікабрытаніі, якія сем гадоў таму абавязаліся выступіць гарантам нашай незалежнасьці ў замен за адмову ад ядзернай зброі. Расея сваёй "інтэграцыйнай" палітыкай (а на самай справе – вялікаімпэрскай палітыкай) пагражае нашай незалежнасьці і адкрыта пра гэта гаворыць. Самы час і нам адкрыта нагадаць заходнім краінам пра нашае спадзяваньне на абяцаную гарантыю. Захад, які фактычна ўтрымлівае Расею, мае шмат рычагоў, каб уплываць на яе палітыку ў дачыненьні да Беларусі.

Аднак мы павінны ведаць галоўнае, што лёс нашай дзяржаўнай незалежнасьці і нацыянальнай будучыні залежыць ад нас саміх.

Ва ўсіх перэпетыях палітыкі і ва ўсіх дачыненьнях мы павінны ўмацоўваць ідэйна-палітычнае і арганізацыйнае адзінства Фронту, бо ў гэтым сіла і перавага нашага руху.

Хацеў бы выказаць некалькі меркаваньняў аб лепшай арганізацыі нашай працы і ў цэлым – Народнага Фронту.

1.Трэба зыходзіць з дадзенасьці: Фронт існуе ва ўмовах аўтарытарнай антыбеларускай дыктатуры, якую падтрымлівае непрыхільная нашаму нацыянальнаму існаваньню чужая дзяржава.

2.Фронт павінен быць шырокім Вызвольным Рухам за волю, дэмакратыю і незалежнасьць Беларусі.

3.Фронт змагаецца з дыктатурай і "інтэграцыйнай" палітыкай расейскага імпэрыялізму; ажыцьцяўляе праграмы, накіраваныя на ліквідацыю бяспраўнага рэжыму і на будаўніцтва дэмакратычнай беларускай улады.

4.Фронт павінен сумяшчаць свабодны і шырокі доступ у яго шэрагі з добрай дысцыплінай і кіруемасьцю, калектыўныя рашэньні – і калектыўныя дзеяньні, індывідуальныя пазыцыі – і агульныя задачы.

Дзеля гэтага трэба ажыцьцявіць наступныя арганізацыйныя дзеяньні:

—Утварыць Палітычны Камітэт Фронту, які павінен быць дарадчым органам пры Сойме і старшыні БНФ. Склад Палітычнага Камітэту фармуе Сойм і старшыня БНФ. (У выпадку, калі старшыня за мяжой, то кіруе Палітычным Камітэтам выконваючы абавязкі старшыні, а старшыня зьяўляецца намінальным кіраўніком.)

Палітычны Камітэт аналізуе палітычную сітуацыю, робіць прапановы, палітычныя распрацоўкі, ацэнкі і рэкамэндацыі для Сойму БНФ.

—Трэба забясьпечыць дэмакратычнасьць структурнага падзелу Фронту, закладзеную ў Статуце БНФ. Менавіта: аднавіць непасрэднае ўзаемадзеяньне і ўзаемасувязь паміж першаснымі арганізацыямі Фронту і кіраўнічымі ворганамі БНФ (Соймам і Управай). Дзеля гэтага трэба вярнуцца да дэмакратычнай двухступеневай структуры арганізацыі і выключыць з сістэмы трэцяе бюракратычнае зьвяно, якім, насуперак прынцыпам першапачатковага будаўніцтва Фронту, сталі цяпер абласныя арганізацыі (дарэчы, не адзначаныя ў Статуце).

Гэтае трэцяе зьвяно стала пасярэднікам паміж першаснымі арганізацыямі Фронту і яго кіраўніцтвам (Соймам і Управай). Утварылася тыповая бюракратычная структура па схеме савецкага адміністрацыйнага падзелу. У гэтым закладзены фармальныя прычыны дрэннай каардынацыі і кіруемасьці Фронту, ізаляванасьці яго частак.

Для паляпшэньня становішча неабходна:

1.Выразна адзначыць, што Рэгіянальная арганізацыя (г.зн.Рэгіянальная Рада) павінна заставацца толькі каардынацыйным ворганам, як напісана ў Статуце БНФ.

2.Падкрэсліць, што межы каардынацыйнай дзейнасьці Рэгіянальнай арганізацыі (Рэгіянальнай Рады) не абавязкова супадаюць з межамі сучаснага адміністрацыйнага падзелу Рэспублікі Беларусь.

Рэгіянальная каардынацыя можа быць абумоўлена рэгіянальнымі, куставымі, экалягічнымі, культурнымі інтарэсамі, ці камунікатыўнымі прычынамі (напрыклад, з Баранавічаў ці Смаргоні бліжэй ў Менск, чым у Берасьце і Горадню і г.д.) Па маіх падліках, у Беларусі можа ўзьнікнуць каля 20-ці Рэгіянальных Радаў Фронту.

Трэба аднавіць дзейнасьць Арганізацыйнай камісіі Сойму БНФ, якая павінна мець кансультантаўкуратараў дзеля выкананьня палажэньняў ва ўсіх Радах БНФ.

—Утвараецца статутны орган – Пашыраная Управа. Яна склікаецца па неабходнасьці Адказным Сакратаром Управы Сойму БНФ альбо па прапанове ня меньш трох старшыняў рэгіянальных Радаў БНФ для каардынацыі працы і прыняцьцяў рашэньняў.

Пашыраная Управа складаецца з сяброў Управы Сойму БНФ, кіраўнікоў рэгіянальных Радаў БНФ і кіраўнікоў Радаў БНФ двух буйных гарадоў з кожнай вобласьці. Удзельнічаюць кіраўнікі Радаў БНФ г. Менска.

—Умацаваньне кіруемасьці і дысцыпліны прапаную рэалізаваць у акрэсьленай палітычнай сфэры дзеяньняў шляхам падвышэньня цэнтральных правоў Сойму БНФ.

Акрэсьленая сфэра – гэта выбары ў дзяржаўныя ворганы ўлады і ўдзел у працы выканаўчых органаў улады.

Па гэтых пытаньнях Сойм атрымлівае функцыі непасрэднага цэнтральнага кіраваньня: прымае ня толькі агульныя рашэньні, але, пры неабходнасьці, — рашэньні па кожным сябры Фронта (прызначэньне, адкліканьне, выключэньне з БНФ, прыпыненьне паўнамоцтваў, наданьне паўнамоцтваў і інш.).

Такі падыход павінен умацаваць палітычнае арганізацыйнае адзінства дзеяньняў Фронту, запабегчы няўзгодненасьці і дэзарганізацыі.

Сойм мусіць працаваць дынамічна, канструктыўна і зладжана. Тут шмат залежыць ад старшыні, які вядзе Сойм, і ад сяброў Сойму, ад іхняга вопыту, этыкі і культуры. Звычайна, менш шматлікая структура мае тэндэнцыі дзейнічаць больш аптымальна. Таму я прапанаваў раней скараціць колькасьць сяброў Сойму, якіх выбіраюць на Зьезьдзе з 49 да 41 асобы. Аднак я не выношу гэтае пытаньне на Зьезд, каб ня траціць час на магчымыя дыскусіі (якія могуць узьнікнуць). Пытаньне не прынцыповае. (Можа застацца і 49 месцаў).

Практыка паказала, што трэба вызначыць цьвёрдую квоту для выбараў у Сойм па-за Зьездам ад рэгіянальных Радаў. (Па аднаму дэлегату ў Сойм ад кожнае рэгіянальнае Рады.) Тым часам палажэньне аб 50-ці адсотках квоты па-за Зьездам ад партыяў, грамадзкіх аргнанізацыяў і тэрыторыяў – скараціць як незапатрабаванае жыцьцём. Кіраваць Фронтам ня могуць іншыя партыі. У Фронце, згодна з заканадаўствам, няма калектыўнага сяброўства.

Трэба прыняць палажэньне аб тым, што ў выпадку неактыўнасьці і няўдзелу ў паседжаньнях Сойму (без уважлівых прычынаў на працягу паўгода) дэлегаваны сябра Сойму ад тэрыторыі можа быць перавыбраны (перадэлегаваны) згодна працэдуры.

—Аб старшыні. Старшыня БНФ разам з намесьнікамі вядзе паседжаньні Сойму БНФ,займаецца ўсімі пытаньнямі палітыкі і дзейнасьці Фронту. У перапынках паміж Соймамі прадстаўляе пазіцыю Фронту. Выступае ад імя Фронту ў межах Статута, Праграмы БНФ і палітычных рашэньняў, прынятых Зьездам і Соймам БНФ.

Старшыня БНФ выступае з прапановамі да Сойму БНФ. Сойм разглядае прапановы старшыні і прымае рашэньні.

Усе гэтыя правы і палажэньні адносяцца і да выканаўчага абавязка старшыні БНФ у выпадку, калі старшыня БНФ вымушана знаходзіцца за мяжой.

У становішчы, калі старшыня БНФ за мяжой, павінна быць актывізаваная дзейнасьць кіруючых органаў Фронту.Канкрэтныя задачы і праблемы працы павінны вырашацца ў Беларусі. Старшыня БНФ бярэ на сябе агульныя пытаньні палітычнай стратэгіі (выступае з ацэнкамі і прапановамі), курыруе палітыку БНФ і замежную дзейнасьць Фронту, прадстаўляе Фронт за мяжой.

—Трэба паставіць задачу прыцягнуць у Фронт сьвежыя інтэлектуальныя сілы, спэцыялістаў і грамадзкіх дзеячоў (і ня толькі ў Менску), дыферанцаваць іхную дзейнасьць па інтарэсах і падрыхтаваць умовы для стварэньня палітычнай каманды на плятформе беларускай нацыянальнай ідэі, нацыянальных, хрысьціянскіх каштоўнасьцяў і дэмакратыі.

—Асаблівую ўвагу мы павінны будзем зьвярнуць на працу Ценявога Кабінету БНФ, Інфармацыйна-прапагандысцкага Цэнтру БНФ і на дзейнасьць асноўных камісіяў Сойму, перш за ўсё – па культуры, па правах чалавека і па экалягічнай абароне. (Пытаньні эканомікі і дзяржаўнага будаўніцтва павінны быць у веданьні Ценявога Кабінету БНФ.)

—Неабходна кансалідаваць вакол Фронту беларускія нацыянальна-вызвольныя сілы, супацоўнічаць зь беларускімі культурна-асветніцкімі арганізацыямі, падтрымліваць беларускі рух моладзі і асабліва – Малады Фронт.

—Мы мусім пастаянна клапаціцца пра павышэньне нацыянальнай сьвядомасьці і пашырэньне адраджэнцкай ідэалёгіі ў нашых арганізацыях і сярод нашых сяброў.

—Мы павінны быць салідарнымі між сабой і з усімі, хто змагаецца з рэжымам за волю, незалежнасьць, дэмакратыю, дзяржаўнасьць і дабрабыт Беларусі.

Мы павінны мацаваць сярод нас і ў іншым грамадстве ўсьведамленьне нашых праграмных галоўных каштоўнасьцяў, беларускіх культурных традыцыяў, маральных асноваў палітыкі, свабоды і годнасьці асобы, вяршэнства агульнага дабра, справядлівасьці, салідарнасьці, нацыянальнай беларускай ідэі і нацыянальнай дзяржавы.

Палажэньні аб Пашыранай Управе, аб функцыі непасрэднага кіраваньня Сойму, аб квотах дэлегаваньня ў Сойм ад тэрыторыяў і аб старшыні БНФ прапаную ўключыць у Статут БНФ. (фармулёўкі падаюцца асобна ў дадатак да гэтага даклада.)

### ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

10 ліпеня Сойм заявіў аб адмежаваньні Фронту ад парушэньняў заканадаўства, якое рабіла кіраўніцтва Цэнтральнай Выбарчай Камісіі ў час кампаніі па выбарах Прэзыдэнта. Гэта неабходнае і правільнае рашэньне. Яно адводзіць Фронт на бясьпечную дыстанцыю, і я ня бачу цяпер неабходнасьці спэцыяльна тут пра мінулыя выбары гаварыць.

Пазыцыя Фронту на выбарах была выразна акрэсьлена і адлюстраваная ва ўхвалах Сойму. Выбары павінны былі адбывацца "ў рэчышчы законнасьці" (Ухвала Сойму БНФ ад 24-а красавіка гэтага году), усе "сябры БНФ павінны строга прытрымлівацца заканадаўства Рэспублікі Беларусь ў ходзе выбараў, якое мае прыярытэт пры любых варунках". (Ухвала Сойму БНФ ад 8 траўня гэтага году).

З майго боку строгае выкананьне выбарчага закону ня толькі пазыцыя, але і ўмова, пры якой я пагадзіўся ўдзельнічаць у кампаніі. Я прапанаваў пэрманетную канцэпцыю выбараў на аснове строгай законнасьці. Але кіраўнік ЦВК ставіў іншыя задачы.

У пачатку выбарчы праект, якім кіраваў спадар В.Ганчар, заламаўся. Мне вядома, што была нават думка прыпыніць выбары. І тады зьявіўся новы плян: дэманстратыўная фальсіфікацыя незаконнага галасаваньня, а "выбраным" абʼяўляюць кандыдата ад БНФ. Па сваёй разбуральнай сутнасьці гэта быў жахлівы плян, які ўтапіў бы ў балоце і Фронт, і яго старшыню. На шчасьце, удалося пазьбегнуць ажыцьцяўленьня гэтага пляну, але ўжо зь вялікімі цяжкасьцямі, бо даведаўся я пра яго толькі 10-га траўня.

Бяда ў тым, што шмат якія фронтаўцы, якія бачылі фальсыфікат і ведалі пра намеры кіраўніка ЦВК. Не прыдалі гэтаму належнага значэньня, і нават думалі, што дзейнічаюць прагматычна. Калі я задаў пытаньне калегам, якія ўжо 5-га траўня ведалі пра сітуацыю, чаму яны не паведамілі мне пра гэта, — у адказ было маўклівае разьвядзеньне рук.

Цяпер трэба спыніць усялякае бяссэнсавае шуканьне вінаватых, высьвятленьне пазыцыяў і памылак, бо гэтыя выбары сталі іспытам для нас усіх і маральным выбарам.

Для разуменьня сэнсу і сутнасьці выбару, які мы напачатку ўсе зрабілі, яшчэ ўступаючы ў Фронт, нагадаю палажэньне Праграмы БНФ аб галоўных каштоўнасьцях Фронту: "Найважнейшым вынікам разьвіцьця сучаснай дэмакратыі, — гаворыцца ў Праграме, — зьяўляецца ідэя аб падпарадкаванасьці палітычнай дзейнасьці этычным нормам. БНФ не прызнае палітыкі без маралі. Прынцып маральнасьці палітыкі адпавядае беларускай культурнай традыцыі". (Разьдзел 2, падразьдзел 2.2.,абзац 5.)

Беларускі Народны Фронт у любых палітычных умовах, у любых жыцьцёвых абставінах заўсёды мог казаць: "Фронт ніколі не хлусіў", "Фронт заўсёды казаў праўду". Магчымасьць і права казаць гэтыя словы ёсьць наш вялікі маральна-палітычны капітал. Адстойваньне і памнажэньне яго ёсьць прагматычная палітыка. Але амаль ніколі ёй не зьяўляецца хлусьня.

Ня трэба слухаць разваг пра двайныя стандарты. Трэба арыентавацца не на шулерскі, а на ідэйны прагматызм. Заклікаю пашырыць наш Вызвольны Рух на сьветлых хрысьціянскіх ідэях справядлівасьці і салідарнасьці, на нацыянальных беларускіх каштоўнасьцях, створаных геніямі беларускага народа, на ідэях вяршэнства агульнага дабра, якія ніколі не сьцьвярджаюцца ашуканствам.

Не існуе шмат дарог да незалежнасьці і свабоды. Ёсьць толькі адзін шлях, які вядзе да сьвятыні.

Коратка пра маю дзейнасьць. Яна – на чатырох накірунках.

Найперш – непасрэдныя і пісьмовыя кантакты з заходнімі палітыкамі, інфармаваньне аб сітуацыі ў Беларусі і аб нашых палітычных патрэбах. Плённымі лічу сустрэчы ў Амэрыканскім Палітычным Камітэце пры Кангрэсе ЗША, у Эўрапарляманце ў Страсбургу, у Міністэрстве замежных справаў у Парыжы і інш. Наведаў таксама Кіеў, Прагу, Рыгу, Вільню, дзе меў шэраг спатканьняў з кіраўніцтвам па канкрэтных пытаньнях ( з Прэмʼерам Латвіі Г. Крастам; Прэзыдэнтам Летувы, Старшынёй і намесьнікамі Сэйму Летувы, Камітэтам Сэйму па правах чалавека; Старшынёй Сэнату Чэхіі, кіраўніком Адміністрацыі Прэзыдэнта Чэхіі, кіраўніком Адміністрацыі Прэзыдэнта Украіны і інш.)

Другі кірунак – правы чалавека. Абарона фронтаўцаў, што трапілі пад асабліва жорсткі палітычны перасьлед. Вялікі абʼём працы быў зроблены за мяжой па абароне В.Лабковіча і А.Шыдлоўскага (арганізацыя дэманстрацыяў у іх абарону ў Нью-Ёрку, звароты ва ўрады, парляманты, міжнародныя арганізацыі, выпускі спэцыяльных інфармацыйных бюлетэняў, рассылка іх па ўсім сьвеце, арганізацыя публікацыяў, дапамогі і г.д.). Ні пра якіх беларускіх вязьняў Захад ня ёсьць так праінфармаваны, як пра гэтых двух маладых герояў-фронтаўцаў.

Выступіў у абарону Юрася Мароза (якому напачатку адмовілі ў палітычным прытулку), пісаў да Прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гавэла. Ю.Мароз атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі.

Займаўся на Захадзе справай Уладзіміра Плешчанкі і цяпер – Уладзіміра Місько, які апынуўся ў вельмі цяжкім стане ў Стакгольме. Зараз яго справы палепшыліся. Мяркую, што ён атрымае палітычны прытулак.

Трэці кірунак – стварэньне пэўных структураў і асяродкаў. Фармальна створаныя дзьве арганізацыі БНФ з эмігрантаў-фронтаўцаў у штаце Нью-Ёрк (20 асобаў) і ў штаце Нью-Джэрзі. У Парыжы ўжо дзейнічае афіцыйны прадстаўнік БНФ (які добра працуе). Пры дапамозе сяброў Фронту вядзецца праца над стварэньнем міждзяржаўнай групы па спэцыяльным вывучэньні палітычных працэсаў ва Усходняй Эўропе. Ёсьць яшчэ пытаньне стварэньня беларускіх радыёстанцыяў і іншыя "цяжкападʼёмныя" праблемы.

Чацвёрты накірунак – выдавецкая дзейнасьць. З 1996 года выдаецца ў Варшаве бюлетэнь "Беларускія Ведамасьці".

Галоўны лейтматыў нашай палітыкі за мяжой у 1996-97гг. – дамагчыся непрызнаньня Захадам рэжыму Лукашэнкі.

Галоўны матыў у 1998-99гг. – дамагчыся гарантыяў Захаду для суверэнітэту і незалежнасьці Беларусі.

Мы мусім памятаць, што на верасень гэтага года (а можа – й раней) расейцы і Лукашэнка плянуюць заключыць чарговы антызаконны пакт аб інкарпарацыі Беларусі ў Расею. Мы павінны не дапусьціць гэтай змовы і прыкласьці ўсе намаганьні, каб прадухіліць наступ расейскага імпэрыялізму.

Усё – на барацьбу з дыктатарам.

Усё – на барацьбу з аншлюсам.

Усё – каб захаваць незалежнасьць, дзяржаву і абараніць Беларусь.

***Зянон Пазьняк.***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".***
***26-31 ліпеня 1999г.***
***Варшава-Менск.***

Наша Слова № 32(417) 11 ЖНІЎНЯ 1999 г.





# НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ

## Дакументальны аповед Рыгора Шавуры

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### ДА ХУТКАЙ СУСТРЭЧЫ, МАМА.

І так, некалькі радкоў пра сына. Перад самай вайной Воўку забраў да сябе брат Алены Іосіфаўны. Ён служыў афіцэрам, у гэты перыяд будавалі вайсковы аэрадром у раёне Баранавіч. Пачалася Вялікая айчынная вайна. Тэрміновая эвакуацыя і адступленне з цяжкімі баямі на Усход. Нямецкая авіяцыя бесперапынна бамбіла і бамбіла нашы часткі, цягнікі. Брат і сын Воўка пешкам прабіраліся па кірунку Валожын – Менск. Не даходзячы да Менска арганізавалі групу разведчыкаў, у гэту групу папрасіўся і Воўка. Далей здарылася так, што большасць з разведчыкаў загінула і назад у ўмоўленае месца шлях ужо фашыстамі быў адрэзаны. Менск быў у агні і дыме. Прабіраючыся праз завулкі і агароды, Воўка выйшаў на паўднёва-усходнюю ўскраіну горада. Далей рухацца перашкаджала рака. Каб яе пераадолець, неабходны быў плыт. Сяк-так ён быў зроблены і – на другі бераг. Да яго яшчэ заставалася некалькі метраў, калі град аўтаматных куль, як лівневы дождж, зрашацій гладкую паверхню вады. Уцякаць не было куды, ды і хуткасць не набярэш на такім "караблі". І ўсё ж лёс жыць перамог. Выбраўшыся на бераг, Воўка падаўся на Магілёўскі кірунак праз лугі, поле і пралескі. Так яны ўмоўліваліся з дзядзькам – Іосіфам Іосіфавічам, калі разміну́цца на гэтых шляхах, прабірацца да Магілёва, там планавалася фармаванне вайсковага цягніка на ўсход. Увесь час трымаўся чыгункі, каб не збіцца з дарогі. Некалькі сутак зморaны, босы і галодны, хаваючыся ад нямецкіх самалётаў, дабіраўся ён да Магілёва. Нарэшце паказаліся абрысы горада. У гэты перыяд цягнік быў падрыхтаваны да адпраўкі. Трэба было спяшацца, немцы вось-вось правруць нашу абарону. Іосіф Іосіфавіч разгублена мітусіўся ля цягніка, павінны адпраўляцца. Пляменніка не было і ўжо не будзе. Час прайшоў. Нагорны раптам удалечыні ўбачыў нейкую кропку, якая ўсё набліжалася і набліжалася. Ускінуў да вачэй бінокль, пазнаў – Воўка спяшаецца да станцыі... Была самая чуллівая сустрэча. Яны абдымалі адзін аднаго і цалаваліся. Нагорны сказаў:

—Ну, Вова, калі мы сустрэліся на дарогах вайны – быць табе з намі.

І хлопца залічылі тэлефаністам на цягніку. Адходзіў цягнік на ўсход, усё бачанае вакол адгукалася несцерпным болем у сэрцы. Цягнік прыбыў у Расею, у Калугу. Іосіф Іосіфавіч праз некаторы перыяд адправіў пляменніка да сваёй сям'і (вайна застала яе там). Трэба яшчэ ў школе вучыцца – толькі восем класаў скончыў...

Час ішоў. Вайна працягвалася. Тэрмін знаходжання ў зняволенні Красічкавай падыходзіў да завяршэння. Дзякуючы няспыннаму хадайніцтву брата – Іосіфа Іосіфавіча, нарэшце Алене Іосіфаўне дазволілі пражываць за тэрыторыяй лагернай зоны. Прыбаўляўся настрой. Вельмі часта пісалі лісты, рэгулярна атрымлівала іх ад сына. Ён падрабязна пісаў аб вучобе, аб сваіх таварышах і вельмі, вельмі чакаў сустрэчы з маці.

У канцы 1943 года тэрмін асуджэння скончыўся. Але ў родныя мясціны вярнуцца не дазволілі. Давялося ехаць да сястры ў Намангам Узбекскай ССР. Звесткі аб біяграфіі Красічкавай тэрмінова направілі па месцы прыбыцця –у міліцыю і НКУС. Уладкавалася працаваць у картачнае бюро Намангама. Пастаянна падтрымлівала сувязь з братам і сынам. Сын – Уладзімір, вучыўся ў паскораным вайсковым вучылішчы, скончваў яго. У траўні 1944 г. прыслаў тэлеграму з наступным тэкстам: "Дарагая мама. Скончыў вучылішча. Прысвоена званне лейтэнанта. У хуткі час прыеду ў кароткатэрміновы водпуск да цябе. Цалую, твой сын Уладзімір". Слёзы радасці хлынулі з вачэй. Алена Іосіфаўна быццам зноў убачыла навакольны свет такім яркім, такім блізкім і жыццесцвярджальным. Дзеля гэтай самай шчаслівай хвіліны ў жыцці варта прайсці праз пекла інават смерць, каб зноў ускрэснуць і жыць. Шчасце маці бязмерна, напярэдадні дарагая сустрэча. Усё, быццам зараз, памятаецца, як адрывалі ад грудзей адзінага, любімага сына, зусім малога, заплаканага і бездапаможнага. Цяпер жа ён – дарослы, вывучыўся на афіцэра. Хутчэй бы час ішоў, нецярпіма чакаць, нават гадзіны, хвіліны...

На рабоце Алена Іосіфаўна хутка адаптавалася, у калектыве яе прынялі добра. Час быў цяжкі. Вайна працягвалася. Працаваць даводзілася шмат, ведалі – так патрэбна дзеля Перамогі. Ці ж можна было лічыцца з цяжкасцямі, доля вайны аднолькавая для ўсіх. Так і праходзілі дні 1944 года. Але ў адзін з дзён раптам патэлефанавалі Алене Іосіфаўне з ваенкамата і запрасілі прыбыць да камісара. Гэты званок быў успрыняты як падцверджанне прыезду сына на часовую пабыўку.

Ваенны камісар сустрэў Красічкаву неяк стрымана, суха. На яго стале было раскладзена мноства папер, дакументаў, палкоўнік нешта запытаў, імкнуўся завесці гаворку, але погляд адводзіў неяк убок. Сэрца Алены Іосіфаўны затрэслася, сігнал трывогі працэзаў усё цела ад галавы да ног. Запыталася:

—Што з сынам?

—Красічкаў Уладзімір Мікалаевіч загінуў пры вызваленні Магілёў-Падольска... — прагаварыў палкоўнік.

Што далей ён зачытваў, Алена Іосіфаўна ўжо не чула. Зямля закалыхалася пад нагамі, у вачах сцямнела, яна ў непрытомнасці павалілася на падлогу. Колькі ляжала, што далей адбывалася, не ведала. Усё было як у тумане. Знайшліся людзі, дапамаглі хоць трошку ачуняць, давялі да дому. Цяпер ужо, здавалася, сэнс жыцця страціла назаўсёды. Дзеля чаго пакутаваць, да чаго імкнуцца. Перажывала, цярпела зняважанні, пераадольвала нечалавечыя цяжкасці, чакала і верыла, што расце сын, ён усё зразумее, ацэніць. Ён жа яе апора, надзея, сэнс жыцця. І гэты адзіны і можа апошні шанец вярнуцца на нармальны, чалавечы лад існавання быў жорстка вырваны лёсам, такім несправядлівым і пакутлівым. Але ж патрэбна жыць, нават і тады, калі ў гэтым і не бачыш ніякага сэнсу. Жыць, проста жыць дзеля іншых.

### НЕЧАКАНАЯ СУСТРЭЧА

Да 1947 года Алена Іосіфаўна працавала ў картачным бюро Намангама. Пасля адмены картачнай сістэмы яна выехала ў Капусцін Яр, дзе служыў Барыскоў – муж яе сястры Ганны Іосіфаўны. Да яе прыезду ў вайсковым гарнізоне арганізавалі курсы вышыўкі пры Доме афіцэраў. Кіраўніком гэтых курсаў прызначылі Алену Іосіфаўну. Прадстаяла знаёмства са старшынёй жансавета. Начальнікам гарнізона з'яўляўся генерал Вазнюк, былы начальнік штаба 30-га палка, дзе камандзірам часці да вайны быў Красічкаў Міхаіл Захаравіч. Муж Алены Іосіфаўны даваў начальніку штаба, шчыра паважаў яго. Пасля арышту Красічкава камандзірам часці паставілі Вазнюка. І калі ў час арышту мужа Алена Іосіфаўна, застаўшыся з малым сынам, звярнулася да кіраўніцтва часткі і канкрэтна да Вазнюка па матэрыяльную дапамогу, ёй адмовілі. Было незразумела, дзе падзеліся тыя адносіны, якія існавалі раней, той давер, узаемадапамога, сяброўства. Людзі адвярнуліся ад чужога гора. Спрацаваў прынцып – мая хата з краю. І вось лёс зноў звёў гэтых людзей блізка адзін да другога. У Капусціным Яры старшынёй жэнсавета была Вазнюк Маргарыта Канстанцінаўна, жонка начальніка гарнізона. Алена Іосіфаўна аб гэтым яшчэ не ведала. Калі яна разам з супраўаджаючым увайшла ў вялікі пакой з дарожкамі на падлозе і шырокім, пакрытым зялёным сукном сталом, убачыла добра апранутую ў капялюшы даму, зусім не падобную на тую, ранейшую рабочую завода. Алену Іосіфаўну пачалі прадстаўляць як кіраўніка курсаў вышыўкі. І тут здарыўся невялікі канфуз. Красічкава разгубілася ад нечаканасці такой сустрэчы і ціха прагаварыла:

—Мы даўно знаёмы.

Шчаслівая генеральша і зняважаная вязніца лагера праз няпростыя перапляценні жыцця зноў сустрэліся. Сустрэліся, каб памяняцца тымі ступенямі сацыяльнай лесвіцы, на якія расставілі іх і складанасць часоў і лёс. Гэты выпадак да глыбіні душы ўзрушыў Алену Іосіфаўну. Сэрца адчувала крыўду за ўсё тое, што так несправядліва склалася ў яе жыцці. Але назад нічога не вернеш. Пацішу стала кіраваць гуртком вышывання. Падтрымлівалася і сяброўства з сям'ёй начальніка гарнізона. Збіраліся па вечарах, пілі чай. Вазнюк доўга і шмат расказваў пра даваенны перыяд, з цеплынёй (інакш жа нельга было) адгукаўся аб мужы Алена Іосіфаўны. Стараліся не датыкацца вельмі складанай і хваравітай тэмы, абыходзілі яе. Кожны разумеў недарэчнасць таго, што адбылося, недарэчнасць, вынікам якой сталі мільёны чалавечых ахвяр, чалавечых пакут.

У хуткім часе зноў чакала дарога, цяпер ужо на Смаленск, таксама да сваіх родных. Муж сястры пераязджаў на новае месца службы, з імі і Алена Іосіфаўна. Начальнік гарнізона , куды яны прыехалі, генерал-маёр, ратуючы свой аўтарытэт, аб'явіў у партарганізацыі, што Красічкава – жонка былога ворага народа, прыехала да сястры ў закрыты вайсковы гарадок. Мужа сястры разбіралі на партбюро і аб'явілі яму строгую вымову. Некалькі паспяшаліся партыйныя кіраўнікі. Літаральна ў гэты перыяд Алене Іосіфаўне прыйшоў ліст аб поўнай рэабілітацыі і адноўленні ўсіх канстытуцыйных правоў, як савецкага грамадзяніна. Так скончвалася вандраванне Алены Іосіфаўны па шматлікіх кут-ках нашай краіны. Гэта вандраванне адабрала ў яе лепшыя гады жыцця і зрабіла іх цэлай эпохай самых жорсткіх выпрабаванняў. Усё страшнае, брыдкае, усе тыя нечалавечыя пакуты цяпер ужо засталіся недзе там, у мінулым. Але ж яны не згінулі бясследна. Душа і сэрца будуць заўсёды насіць у сабе незажываючыя раны, нанесеныя злачынасцю і вар'яцтвам асобнай групы людзей, якія кіравалі нашай дзяржавай і вялі народ у "светлую будучыню".

Дзесяць гадоў мінула з таго часу, калі таварняк вывозіў сотні і тысячы жанчын на катаргу толькі за тое, што яны былі жонкамі савецкіх афіцэраў. Спатрэбілася дзесяць гадоў, каб пераканацца ў памылцы таго, што зрабілі з мільёнамі лепшых людзей. Але ніхто не прасіў даравання ў іх за гэтыя злачынствы. Час заставаўся складаным. ГУЛаг і шматлікія іншыя, звязаныя з ім "установы" не прыпынялі рух канвеера туды, адкуль назад дарогі адшукаць было цяжка. Самая гуманная і самая справядлівая сацыяльна-грамадская сістэма, як яе прадстаўляла заўсёды і на ўсіх узроўнях дзяржаўная ідэалогія, паглынула і працягвала паглынаць сваім ненасытным чэравам масы сваіх суграмадзян. На пытанні "за што?" і "чаму?" адказу не існавала. Так было патрэбна Радзіме?

Жалезныя колы пасажырскага цягніка размерана стукалі і стукалі. За вокнамі вагона мільгацелі карціны блізкай і знаёмай прыроды з вёскамі, калгаснымі палеткамі, вялікімі і малымі станцыямі. Усюды былі бачны сляды мінулай вайны – спаленыя вёскі, руіны разбураных дамоў, там-сям на полі зарастала бур'янам разбітая вайсковая тэхніка. Сэрца Алены Іосіфаўны перапаўнялася разнастайнай мазаікай пачуццяў – і радасцю вяртання на Радзіму, і смуткам пасляваеннай нястачы, і несцярпімым болем зламанага асабістага лёсу. Здавалася, яна вярталася з бязмерна далёкага мінулага, быццам прачыналася з летаргічнага сну, страшэннага і нерэальнага. Эпоха даваеннага жыцця для Алены Іосіфаўны, жыцця паўнакроўнага, шчаслівага, цікавага ў сямейных і грамадскіх турботах, справах засталося цяпер толькі нейкім стопкадрам мінулага. Нічога з таго больш не вернеш, ды і няма ўжо сэнсу для яго вяртання. У рэчку двойчы не зойдзеш. Вада цячэ, праходзіць час, як і колькі адмерана кожнаму.

### НА РАДЗІМЕ

У 1948 годзе Алена Іосіфаўна прыехала ў Менск. Дванццаць гадоў прайшло з таго часу, як яна ў апошні раз праходзіла па старажытных вуліцах даваеннага горада. Цяпер пазнаць яго было немагчыма. Горад яшчэ заставаўся ў руінах, толькі некалькі пабудоў сірататліва ўздымаліся сярод развалін. Сталіца аднаўлялася. Усе жыхары ад мала да вяліка свой вольны час аддавалі на яе адраджэнне. Лозунг "Зробім родны горад яшчэ лепшым і прыгажэйшым" быў для кожнага з іх самым актуальным і важным. З першых дзён прыбыцця ў радзімыя мясціны А. Красічкава актыўна ўключалася ў агульнанародную справу адраджэння разбуранага горада. Не было ніводнай хвіліны, якая б была не задзейнічана на расчысткі, добраўпарадкаванні і азяляненні вуліц. Разам з іншымі ішла яна на дапамогу будаўнікам. Катастрафічна не хапала жылля, школ, бальніц. Трэба было ўзнімаць заводы, фабрыкі. Спраў хапала ўсім...

Алена Іосіфаўна сяк-так уладкавалася жыць у сваіх родных. Адразу ж знайшлася работа, якая вельмі прыйшлася ёй па душы. Стала працаваць кіраўніком курсаў вышыўкі пры Доме афіцэраў (БВА). Сваё майстэрства, досвед у гэтай справе пачала перадаваць яна вялікаму калектыву вышывальшчыц, якія аддана і ўлюбёна прысвячалі ўвесь свой вольны час любімым заняткам. Менавіта тут Красічкава так яскрава і поўна адчула сваю патрэбу людзям, сваю прыналежнасць да свету дабрыні, чыстай чалавечых узаемаадносін. Вось ён, сэнс жыцця. Гэта ж тая нітка, за якую можна ўтрымацца, жыць, працаваць. Толькі сярод людзей, толькі з імі і для іх можна далей крочыць у гэтай складанай плыні дабра і зла, святла і цемры, радасці і гора. Вера ў тое, што не ўсё лепшае, чыстае, добрае страчана, усведамленне таго, што стольki душэўных людзей, якія так шмат перажылі і выцерпелі праз вайну, усялякія сацыяльна грамадскія катаклізмы жыватворна напаўнялі яе асабісты свет, давалі стымул да працоўнай і грамадска-выхаваўчай дзейнасці.

*(Працяг аповеду аўтар абяцаў даслаць у рэдакцыю.)*

